Цана 30 мк.

Год I. Вільня 3 верасьня 1922 г. № 1.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Навагрудзкай земляў.

Цана нумару 30 марак.
Газэтка каштуе з паштовую перасылкаю, ў месяц 150 марак.
Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618.
Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г.

Абвесткі:

| | |
|---|---|
| Цэлая старонка | 10.000 мк. |
| 1/2 старонкі | 5.000 „ |
| 1/4 „ | 3.000 „ |
| Дробныя абвесткі за радок | па 100 „ |

*Кіраўнік Рэдакцыі: ЛЮДЗЬВІК ХАМІНСКІ пасол Сойму. Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, С. Галавач, С. Бальлін, В. Шакун, Б. Ігнатовіч, П. Жынь, Я Драздовіч. М. Дваржэцкі, А. Шапель.*

**УВАГА!** Зьезд сяброў Галоўнае Управы Віленшчыны й Наваградчыны адбудзецца у Вільні ня 3-га верасьня, а 10-га верасьня бяг. году.

Будуць абгавараваца вельмі важныя справы. Прыезд усіх сяброў абавязковы.

**Арганізацыйны Аддзел.**

---

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ.

8 га гэтага верасьня а 12 гадзіне ўдзень у памяшканьні Коопэратывы „Люд“, Мастовая, 1

### адбудзецца

Агульны Сход сяброў коопэратывы „Люд“. Калі-б не сабраўся патрэбны лік сяброў, дык чарговы правамоцны сход адбудзецца а 1-й гадзіне ўдзень.

**Парадак дня:**

Справаздача Рэвізыйнае Камісіі.
Справаздача Управы.
Прыняцьце статуту.
Справа далейшага істнаваньня коопэратывы.
Выбар новых улад ў коопэратывы.
Вольныя прапазыцыі.

**УПРАВА.**

## Браты вызваленцы!

Завылі з радасьці паны эндэкі! Уцешыліся, што сконфіскавалі нам нашую газэтку „Wyzwolenie odrodzenie“, што будзе суд, што мо' й пасадзяць у вастрог тых, што праўду пішуць! Але баяцца паны эндэкі, што будзе даходзіць да вас нашая газэтка пад іншай назваю, баяцца, што вы далей будзеце чытаць праўду ў „Вызваленьні народу“.

Вось жа й страшаць ды лгуць, як могуць, каб адцягнуць вас ад праўды, каб вашыя галасы пры выбарах да свае урны сабраць. Пішуць яны (ў эндэцкай газэце „Głos Wileński“), што нікому цяпер нельга нашае часопісі распаўсюджаваць, бо падпадзе пад строгую кару!“

Вось прыслужлівыя паліцыянты!

Але зводзяць паны эндэкі!

Кожны разумее, што таго нумару, які сконфіскавалі, распаўсюджаваць нельга, бо яго й няма. Але ўсе іншыя — даўнейшыя нумары „Wyzwolenia Odrodzenia“ можна й далей даваць людзям чытаць, а таксама ніхто ня мае права прасьледаваць „Вызваленьне народу“.

Дык адважна чытайце сваю газэтку! Баранеце й распаўсюджвайце яе — гэта для нас — рэдакцыі—найбольшая радасьць і заплата за працу, а можа й... вастрог!

**Рэдакцыя.**

---

## Да Братоў Сялян!

Даўно ўжо мы хацелі выдаваць нашую газэтку і пабеларуску. Мы разумелі заўсёды, што можа не аднаму лепей чытаць словы праўды ў тэй мове, якою ён гаворыць і думае.

Мы, Вызваленцы, хочам, каб сялянскі рух агарнуў усіх: і палякоў і беларусаў і украінцаў. Хочам, каб усе зразумелі, якая

дарога вядзе да праўды, да волі, да добрага жыцьця. Хочам, каб усе сяляне ў Польскай дзяржаве, ці хто гаворыць пабеларуску, ці папольску, ці паукраінску, адкрылі вочы на тое, хто зьяўляецца нашым ворагам. Ворагам нашым супольным ёсьць пан-абшарнік, капіталісты - эксплёататар і кожны, хто ня хоча даць народу прасьветы, ўлады й зямлі. Проці гэтых ворагаў працоўнага народу ўсе павінны злучыцца: і польскі, і беларускі, і украінскі селянін. Бо, як ня злучымся, дык паны лёгка дадуць нам раду і далей будуць гнясьці нас, далей будуць эксплёатаваць.

Вось дзеля чаго „Вызваленьне“ заўсёды кліча: да працы, да супольных радоў у імя агульнае сялянскае справы! Пойдзема разам, браты беларусы, палякі, украінцы — дык перамо́жам!

А калі хто з вас ужо належыць да партыі беларускае, ці украінскае — дык хай сабе належыць і працуе, але хай і там ён памятае, што ўсе мы маем супольны інтэрас і супольнага ворага, але хай і там памятае, што ці пры выбарах, ці ў самым Сойме ўзаемна памагаць сабе трэба, але ня ваявацъ паміж сабою.

Вось дзеля чаго мы хацелі ужо даўно выдаваць нашую газэтку і пабеларуску.

Але, мы — бедны, ня мелі грошай. Мы чакалі, калі зьбяром з сялянскіх складак крыху грошай, каб пачаць друкаваці. Сягоньня ўжо пачалі, але памятайце, што калі нам не памо жаце, калі свае сялянскае газэткі не падтрымаеце, калі ня будзеце рэгулярна прысылаць тых колькі грошай, дык змоўкне голас сялянскай праўды, дык перастане яна выходзіць.

Толькі ад вас залежыць браты сяляне, каб газэтка наша выходзіла рэгулярна, толькі ад вас залежыць, ці мы ўсе абаронімся перад паводкай панскіх газэтаў, адозваў, агітатараў, грошай юдавых ды іх бязьлітасных урадаў.

Рэдакцыя.

---

**Складайце ахвяры на выбарны фонд!**

# ВЫБАРЫ.

Не ўдалося паном эндэкам адлажыць выбары ў Сойм. Хацелі яны, каб стары Сойм, выбраны тры гады назад ня з усіх часьцей Польскае Дзяржавы (без Валыні,без Беларускіх,земляў без Віленшчыны, істнаваў далей, каб і далей дапушчаць несправядлівасьць ды сваволю вураднікаў, расьцягваньне спэкулянтамі зямлі й лясоў. Не хацелі яны новага Сойму, бо што будзе, як у тым новым Сойме будзе большасьць сялянска-работніцкая, як засядуць там і беларусы і украінцы, як усе яны разам, згодна скажуць: даволі ўжо панскіх урадаў! Мусіць быць свабода праўдзівая, мусіць нарэшце зямля перайсьці да тых, хто на ёй у поце чала працуе — мусіць быць парадак, а гультаі проч ад урадаваньня!

Але Начальнік Дзяржавы ўжо назначыў выбары і будуць яны: 5 лістапада да Сойму і 12-га лістапада да Сэнату.

Страх абляцеў паноў! Што рабіць? Як выйграць выбары, як выйграць панаваньне на новыя 5 гадоў?

Гэтулькі крыўды, гэтулькі глупства нарабілі, гэтулькі сьлёз і крыві праліў праз панскія ўрады працоўны народ, гэтак нікога паны не шкадавалі, рэшткі выціскалі з селяніна і работніка.

Як-жа цяпер ад іх выкруціць голас на сваіх кандадатаў. Чым цяпер агітаваць, як пераканаць, як ачмуціць, ашукаць?

Радзіліся й радзяцца аб гэтым паны доўга, заварушыліся, як мурашкі, езьдзяць, пішуць, арганізуюць.

Перш за усё сказалі: „Мусім усе злучыцца — ніхто не павінен аддзяляцца. Як пойдзем усе разам, дык не дапусьцім сялян, не дапусьцім Вызваленцаў да ўлады“.

Ведама, што правіца складаецца з некалькіх партыяў. Вось-жа цяпер перад выбарамі ўсе яны злучыліся й назваліся йначай, каб просты народ ня мог пазнаць у іх даўнейшых паноў — эндэкаў. Называліся яны раней: нацыянальнымі (народовымі) дэмократамі, пасьля народна-нацыянальным саюзам, а цяпер, падчас выбараў, будуць называцца: хрысьціянская нацыянальная еднасьць. І ўжо пачалі крычаць: Во, пагляньце людзі, усе злучыліся, толькі гэтыя Вызваленцы йдуць асобна і хочуць перакуліць сьвет дагары нагамі!

А мы ім адказваем: што вы злучыліся, дык няма ніякага дзіва

Вы злучыліся, каб не дапусьціць да зямельнай рэформы, каб бароцца з працоўным народам. А мы, Вызваленцы, хочам, каб зямля перайшла ў рукі селяніна.

Нам не па дарозе разам.

Ў вас злучыліся: абшарнік, фабрыкант, панскі слуга вураднік, купец спэкулянт ды кожны гультай-эксплёататар, а ў нас злучыліся сяляне з чорнымі ад працы рукамі.

Вы, як ашуканцы, называеце сваю зграю для бруднага інтарэсу хрысьціянскаю еднасьцю, каб замыліць вочы цёмным людзям, а што-ж супольнае маеце з навукаю Хрыста? Ці Хрыстос, казаў багацець бяз меры, без патрэбы з крыўдаю для свайго бліжняга, ці-ж казаў ня мець літасьці над убогім, ці-ж не на старане беднякоў стаяў заўсёды Хрыстос?

Мы, Вызваленцы, пад рэлігію, пад імя Хрыстова не падшываемся, бо нашае сумленьне чыстае, бо справа наша чэсная, справядлівая. Мы ашуканства ня робім!

Апрача гэтага яны самі на сябе налажылі гэткія вялікія падаткі на выбары, што, каб захацелі гэтыя грошы (яны гэтага ніколі не захочуць!) аддаць на рэчы патрэбныя, дык адразу ў нашым краі маглі-б стаць школы, шпіталі, дарогі і не сьмяяліся б з нас, як з дзікіх людзей, чужаземцы.

Кожны гэткі пан, які заўсёды выкручваўся ад кожнага падатку, цяпер са страху перад селянінам, дабравольна, з ахвотаю нясе ў панскую касу па тысячу, дзьве і больш за дзесяціну.

Сабраліся ўжо гэтак тысячы мільёнаў (мільярды)! І далей зьбіраюць і далей нічога не шкадуюць на выбары.

На што гэткія вялікія грошы патрэбны?

А вось на тое, каб сабе купіць галасы, купіць чалавечае сумленьне. На тое, каб наняць ды выслаць на час выбараў на вёску, да кожнай вёскі, да кожнай валасьці тысячы агітатараў— тысячы сваіх газэт, плякатаў, абвестак, у якіх усё будзе даклярована: і воля і зямля, і справядлівасьць!

Купіць за грошы, калі дабравольна нельга дастаць!

Паноў на гэта хопіць

Сягоньня выдадуць з свайго кішэня, а як выйграюць выбары, дык адаб'юць усё гэта, зьвернуць сягоньняшнія расходы: будуць далей панаваць, будуць далей накладаць на селяніна падаткі якія толькі хочуць, будуць далей шахраваць зямлёю, прадаваць лясы.

Варта ім сягоньня зрасходаваць больш! З процэнтам адтрымаюць свае капіталы!

Вось, што ўжо робяць паны! Вось, як яны рыхтуюцца да выбараў!

Зважайма, каб з гэтага ня выйшла чаго-нібудзь благога.

**С. Ваяводзкі.**

## Гэта-ж страшэнна!

Прышоў, прыцягнуўся да нас, да рэдакцыі бедны, скатованы чалавек. Быў ён гэтак страшна зьбіты, што ня можна было глядзець, сэрца кроілася, бачачы сіня-чорнае мяса на жывым чалавеку.

Прасіў абароны, аб напісаньні аб гэтым у газэтцы. Мы пастанавілі напісаць, хаця й ведаем, што зноў аб нас будуць крычаць, што падбухторваем, што бунтуем. Але-ж, як ня пісаць аб гэтым! Сэрца прыказвае голосна крычаць, прасіці помсты ў Бога! Лічым, што гэткіх фактаў ніколі нельга таіць, трэба аб іх пісаць, бо йначай ніколі зло ня выкараніцца.

Зьбіты, бедны чалавек раскаваў нам:

„Засталося ў мяне пасьля будовы гумна трошкі дзерава. Парубаў я гэтае дзерава і вёз прадаваць. Па дарозе — у Лаварышках затрымаў мяне паліцэйскі і патрэбаваў паказаць дакумэнт на гэтае дзерава. Я спытаўся, які можа быць дакумэнт на дзерава, Тлумачыў я, што гэта рэшткі ад будовы гумна. Тады паліцэйскі нахіліўся і сказаў на вуха: „Ці ты ня ведаеш, гэткі ты сыне, што дакумэнтам ёсьць бутэлька гарэлкі". Бутэлькі гарэлкі я ня даў. І за гэта вось пабіты".

Дык вышэйшыя ўлады праверацць, ці гэта ўсё праўда. Мы правяраць ня можам, бо гэтулькі скаргаў, гэтулькі бяды да нас прыходзіць, што мы муселі-б толькі тое й рабіць, што правяраць!

Але мы бачылі скатованага чалавека, бачылі апухлае, чорнае цела. Бедны чалавек прасіў, каб падаць і яго прозьвішча й вёску, дзе ён пражывае. Гэтага нам досіць, каб сказаці: Нельга біць людзей, нельга катаваць, нельга паневяраццa вартасьцяй чалавека, навет тады, калі яго падазраваюць ў зладзейсьцьве! Права гэта забараняе!

Мусіць быць пакараны кат паліцэйскі, мусіць быць выгнаны гэткі дурань, каб іншых, чэсных добрых паліцэйскіх не заразіў!

Пабіты гаспадар называецца Янка Шупа з вёскі Невярышкі, Неменчынскай валасьці.

**Свой.**

## І гэта ім перашкаджае...

Хочучы прыйсьці з падмогаю вясковаму насяленьню, „Вызваленьне" з вялікім трудом пазакладала пры сваіх сэкрэтарыятах бюра праўных парадаў. У гэтых бюрах нашыя сябры, знаёмыя з правам, даюць рады і пішуць прашэньні ўсім, хто патрабуе, за вельмі нізкую аплату. Гэткім чынам Браты сяляне могуць ня ісьці да адвакатаў, якія кажуць дорага плаціць ім і часта бяруцца весьці гэткія справы, аб якіх ведама наперад, што іх нельга выйграць, цераз што змушаюць бедных людзей марнаваць і час і грошы.

А невяліічкія аплаты ў нашых бюрах парадаў ідуць ня ў прыватны кішэнь, але на арганізацыю.

Здавалася-б,што гэта заслужвае толькі падтрыманьня.

Але не!

І гэта не падабаецца паном эндэкам ды іх паслугачом.

Усюды, дзе могуць, борунца з нашымі бюрамі парадаў. Калі дзе-нібудзь ёсьць судзьдзя, ці сэкрэтар эндэк, які хоча спадабацца паном, дык нагавараваюць іх, каб ня прыймалі прашэньняў, пісаных у нашых бюрах. Але ня могуць пазнаць, дзе прашэньні пісаны, дык страшаць і папярэджваюць, каб ня пісалі „ў гэтых бальшавікоў, вызваленцаў".

Ужо ведаем аб некалькіх гэткіх сэкрэтарох і судзьдзях.

Сягоньня называем толькі п. М. Ковача, сэкрэтара суду ў Іўі, які вышэйсказаным чынам страшыць і адсылае інтэрэсантаў да Бэндэра, альбо да Міхаловіча, выгнанага валаснога сэкрэтара з Іўя.

Папераджаем, што аб гэткіх надужываньнях і бяспраўі нашыя паслы пішуць да Міністра Справядлівасьці, які вытлумачыць, што гэтак нельга рабіць.

Хай гэткі пан Ковач памятае, што як будзе ўхілены з пасады, дык змушаны будзе пашукаць працы ў маёнтку ў абшарнікаў, перад якімі гэтак выслужваецца.

**С. В.**

## Праз барацьбу да перамогі!

## Асьцярога!

Злучаная панская рэакцыя ўжо выдумала яшчэ адзін спосаб. каб выграць выбары. Ведаюць эндэкі, што войты й солтысы маюць на вёсцы значэньне, што ад іх шмат чаго ў валасьці й на вёсцы залежыць. Дык пастанавілі паны купіць усіх войтаў і солтысаў.

Вось і будуць цяпер езьдзіць ад валасьці да валасьці. ад вёскі да вёскі ды нагаварываць солтысаў і войтаў, каб узялі ад іх грошы, каб нагаварвалі вясковы народ да галасаваньня за іх нумар. Ня верым, каб гэта ім удалося, знаем шмат войтаў і солтысаў, якія не спакусяцца на юдавы сярэбранікі, не дадуцца падпупкіцца, ня здрадзяць сваіх братоў — напэўна большасьць войтаў і солтысаў папрэ вон гэтых труціцеляў сялянскае душы. Але ў кожным стадзе можа знайсьціся паршывая авечка. Можа знайсьціся здрайца, які палакоміцца на панскія грошы, паціху іх прыме і будзе ў часе выбараў разам з панамі й іх агітатарамі падтрымліваць іх кандыдатаў, іх нумар.

Вызваленцы, зважайце на гэта! Калі сярод вас ёсьць які няпэўны, лакомы войт, ці солтыс, дык будзьце асьцярожнымі. Сьцеражэцеся, каб не заразіў, каб не нагаварыў ён іншых.

---

## Скаргі на войска.

З усіх бакоў да нас даходзяць скаргі на паступкі войска. Там некага пабілі, там нешта бясправўна зрэквізавалі, там занялі хату, гумно і гаспадар ня мае куды зьвязці жыта і сена.

Пакуль была вайна, дык усе цярпелі гэта, як маглі: цяжка, але што-ж зрабіць! Жаўнер на вайне сам бедны, часта галодны, злы, а заўтра можа й забіты будзе.

Але-ж вайна ўжо даўно скончылася. Няма што сьпяшацца, няма патрэбы нікому рабіці крыўды. А тым часам ня шмат папрвілася. Ня спыніяіся гвалты, біцьцё. злодзейства.

Трэба ўжо пачаць аб гэтым пісаць ды протэставаць. Гэтаму павінен быць канец бо будзе блага, калі ўсе зьненавідзяць войска. Жаўнер ёсьць абаронцам ад непрыяцеля, павінен усімі шанавацца, але й ён павінен быць добрым грамадзянінам краю й нікому не рабіць крыўды.

Калі жаўнер гэтага не разумее, дык афіцэр павінен гэта жаўнеру вытлумачыць і стрымаць ад бясправўя.

Але, нажаль, вельмі часта й афіцэры робяць блага, даюць благія прыклады сваім падуладным.

Вельмі часта афіцэры запамінаюць, што яны зьяўляюцца адпавядальнымі за жаўнераў, што яны, як людзі адукованыя, мусяць быць рыцарамі, далікатнымі й памоцнымі пры стыканьні з насяленьнем.

Калі афіцэр благі, дае нядобры прыклад падуладным, сам робіць бясправўе, дык войска будзе для кожнага жаўнера ня школай шляхотнасьці і патрыятычных грамадзкіх паступкаў, а школаю дэмаралізацыі і бясправўя.

Пакуль што, мы не падаём прыкладаў бясправўя з боку некаторых вайсковых.

Усе копіі скаргаў на вайсковых адсылаем да вышэйшых уладаў.

---

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Грамадзянін Рэдактар!

Надрукуйце ў нашай газэтцы гэткія словы:

Паны, бачачы, што народ горнецца да свае арганізацыі пад свой штандар Вызваленьня, што народ становіцца штораз мацнейшым і можа дайсьці ўжо зараз да ўлады, перапалохваюцца, што трэба будзе адыйсьці, дык кідаюць розную брахню і робяць падкоп пад нашую партыю

Найлепей ім памагаюць у гэтай рабоце іх парабкі пястоўцы-вітосоўцы.

Пражываю я недалёка ад пана Мілевіча з засьценку Зарач, Браслаўскай валасьці, які цяпер паслом у Сойме. Няраз здараецца чуць ад яго розную брахню на наша „Вызваленьне“. Даходзіць гэты пан да таго, што расказвае аб „Вызваленьні“ быццам-то яно мае сувязь з бальшавікамі.

Ніхто тваім глупым словам ня верыць, пане Мілевіч. Адкажы, чаму ты маўчаў, ротам не паварушыў, калі быў на мітынгу нашага пасла вызваленца Хамінскага. Уважна ты ўсё слухаў і пэўна мог публічна свае закіды выказаць, ніхто табе не забараняў. Але ты тады гэтага зрабіць не адважыўся, лічыш лепшым цяпер, пацiху фальш і атруту пушчаць, прыпомні той дзень, як цябе сяляне выбіралі: з радасьцю. з сьлязьмі, пасылалі мы цябе ў Сойм, спадзяваючыся, што ты патрапіш бараніць нашыя сялянскія справы. А што-ж ты зрабіў? Ці хоць раз сказаў ты ў якой крыўдзе, ў якой паняверцы й бядзе жыве народ?

Не! Хоця сам паходзіш з народу й выбраны народам, ты здрадзіў гэты народ. прылучыўся да пястоўцаў-вітосоўцаў, да гэтых спэкулянтаў зямлёю, да гэтых слугаў нанскіх. Ты здрайца народу, працiўнік добрай і людзкай справы. Памятай. што цяжка табе будзе адказваць за грахі. Народ асудзіць цябе!

Браты Вызваленцы! Змагаймася проці падобных Мілевічаў, вітосоўска-эндэцка-панскай рэакцыі!

Трымаймася разам пры нашым „Вызваленьні“, якое нас давядзе да мэты — да перамогі.

**Ф. Кропан.**

Вёска Крукі, 12.VIII. 1922 г.

---

## Адказы ад Рэдакцыі.

**Грамадзянам Дзямброўцам.**

Пісьмо Вашае, Грамадзяне, мы адтрымалі, але надрукаваць яго ня можам, пакуль ня прышлеце сваіх подпісаў. Рэдакцыя наша можа прозьвішча Вашага не друкаваць, але ведаць, хто піша павінна, бо за ўсё адпавядае. На камэнданта паліцэйскага паста ў Дзямброве Станіслава Зюка людзі ўжо скардзіліся нам колькі разоў. Відаць, што надта ўжо ён усім залез пад скуру. Ведаем аб яго апэтыце на рыбу, на агуркі, на гарэлку, ведаем аб пярсьцёнках ды гадзіньніках яго жонкі, аб біцьці людзей і аб іншых справах.

Копію вашага пісьма пересылаем да Лідзкага Старасты, можа ён сам патурбуецца глянуць, якія парадкі ў яго павеце й гэтага вашага „рыцара“ забярэ. Пішэце да нас болей, бо ў вашых словах ёсьць розум і патрыятызм. Бывайце!

**Грам. Янку Тарасевічу, солтысу вёскі Б.**

Калі маеце сьведкаў, як ваш абшарнік пан К. З. даваў вам грошы, каб вы напалі на інструктара „Вызваленьня“ і самі з „Вызваленьня“ выступілі, дык можна падаць гэтага пана ў Суд. Яго жонка, хоць і была пры тым — доб ым сьведкаю ня будзе. Напішэце нам аб гэтай справе падробна, дык надрукуем у газэтцы.

---

Рэдактар Выдавец **С. Ваяводзкі.**

Друк. „LUX“ у Вильни.